П. П. Жаўняровіч

# Асновы рэдагавання на беларускай мове

*Зборнік трэніровачных практыкаванняў і практычных работ*

*Рэкамендавана ўстановай адукацыі «Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі» ў якасці дапаможніка для навучэнцаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне прафесійна-тэхнічнай адукацыі па вучэбнай спецыяльнасці «Дакументазнаўства, інфармацыйнае і арганізацыйнае абслугоўванне»*

Мазыр
ТАА ВД «Белы Вецер»
2005

**УДК 82.08(075.32)**
**ББК 74.5(4Беи)**
**Ж39**

Рэцэнзенты:
выкладчык бел. мовы і літ., старш. цыклавой камісіі філалагічных дысцыплін УА «Віцебскі дзярж. праф.-тэхн. каледж», бакалаўр гуманітарных навук С. А. Маркіленка;
дац. каф. агул, і праф. педагогікі УА «Рэспубліканскі ін-т праф. адукацыі», канд. пед. навук В. В. Славінская

Жаўняровіч, П. П.

Асновы рэдагавання на беларускай мове : зборнік трэніровачных практыкаванняў і практычных работ / П. П. Жаўняровіч. — Мазыр : ТАА ВД «Белы Вецер», 2005. — 49, [3] с.

ISBN 985-486-449-9.

У зборніку змешчаны трэніровачныя практыкаванні і практычныя работы, якія дапамогуць у замацаванні тэарэтычных ведаў па курсе «Асновы рэдагавання на беларускай мове». Матэрыял падаецца ў адпаведнасці з праграмай, мае накіраванасць на працу з тэкстам афіцыйна-справавога стылю.

Прызначаецца навучэнцам установ, якія забяспечваюць атрыманне прафесійна-тэхнічнай адукацыі (кваліфікацыі — сакратар-машыністка і сакратар-стэнаграфістка). Можа быць карысны ўсім, хто цікавіцца рэдагаваннем на беларускай мове.

УДК 82.08 ( 075.32)
ББК 74.5(4Беи)

ISBN 985-486-449-9

# Прадмова

Зборнік трэніровачных практыкаванняў і практычных работ «Асновы рэдагавання на беларускай мове» распрацаваны на падставе тыпавой вучэбнай праграмы для прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў «Асновы рэдагавання на беларускай мове» і прызначаны навучэнцам па спецыяльнасці «Дакументазнаўства, інфарамацыйнае і арганізацыйнае абслугоўванне» (кваліфікацыі — сакратар-машыністка і сакратар-стэнаграфістка).

У зборніку змяшчаецца разнастайны дыдактычны матэрыял для замацавання тэарэтычных ведаў, набытых пры вывучэнні курса: практычныя работы, прадугледжаныя праграмай; для асобных, найбольш аб'ёмных тэм выкарыстаны трэніровачныя практыкаванні, якія выконваюцца ў працэсе працы на ўроку або як дамашнія.

Курс «Асновы рэдагавання на беларускай мове» мае сваёй асновай наяўнасць дастатковых ведаў па беларускай мове з курса сярэдняй школы. Вельмі важна ўмець карыстацца разнастайным даведачным матэрыялам, перш за ўсё слоўнікамі беларускай мовы розных тыпаў.

Неабходна разумець, што рэдагаванне або пераклад тэксту — творчы працэс і дапускаецца магчымасць некаторай варыянтнасці выпраўленага матэрыялу. Але пры любых умовах адрэдагаваны тэкст павінен адпавядаць прынятым на сённяшні дзень нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Гэта асабліва важна для тэкстаў афіцыйна-справавога стылю.

Пры падрыхтоўцы зборніка выкарыстаны сказы і тэксты з разнастайных службовых дакументаў. Некаторыя матэрыялы, звязаныя з рознымі галінамі народнай гаспадаркі, узяты з перыядычнага друку.

Назвы устаноў і прозвішчы ў сказах і тэкстах зменены, магчымыя супадзенні з'яўляюцца выпадковымі.

## Рэкамендацыі па выкананні практычных работ

Выкананне практычнай работы дапамагае выпрацаваць уменне рэдагаваць словы, сказы і тэксты і набыць адпаведныя навыкі. Неабходна карыстацца не толькі набытымі ў час заняткаў ведамі, але і разнастайнымі дапаможнікамі, даведнікамі і слоўнікамі. Увогуле праца са слоўнікамі розных тыпаў — неабходная перадумова дасканалага выканання большасці практычных работ.

Пажадана прытрымлівацца наступнага парадку выканання работы:

— уважліва азнаёміцца з тэмай і мэтай, указанымі ў пачатку работы;

— азнаёміцца з умовай задання (што патрабуецца зрабіць);

— адзначыць тыя сродкі навучання, якія спатрэбяцца для выканання работы (даведнікі, канспект, альбом форм, слоўнікі, энцыклапедыі і г. д.);

— азнаёміцца са зместам задання;

— вызначыць тыя словы, сказы або часткі тэксту, якія патрабуюць аднатыпнай праўкі;

— выканаць работу ў чарнавіку;

— сфармуляваць частку «Вывады», якой павінна заканчвацца кожная практычная работа: указаць асноўныя адрэдагаваныя недакладнасці і памылкі, адзначыць цяжкасці, якія ўзніклі пры выкананні работы;

— аформіць чыставік практычнай работы на лісце фармату А4, указаўшы тэму і мэту;

— здаць работу на праверку.

На наступных занятках неабходна азнаёміцца з праверанай работай, удакладніць найбольш складаныя пытанні, звязаныя з недакладным рэдагаваннем, і здаць правераную работу выкладчыку для захавання да канца вывучэння курса.

## ВІДЫ І ТЭХНІКА ПРАЎКІ ТЭКСТАЎ

### Практычная работа 1

***Тэма***: «Тэхніка праўкі тэкстаў».
***Мэта:*** выпрацаваць уменні выкарыстоўваць пры рэагаванні карэктурныя знакі і разгортваць тэкст, выпраўлены з іх дапамогай.

**Заданне 1**. Унясіце карэктурныя знакі ў тэкст пісьма-просьбы. Пры неабходнасці карыстайцеся матэрыяламі дадатку 1.

ЗАТ «Каскад», разглядзеўшы шэраг аб'ектывных Пры-чын, што ўплываюць на выкананне
комплекстнае будаўнічых работ па будынку ўпраўлення, вымушана ўнесці змены ва ўмовы наашга пагаднення ад 26.01.2004. Просім выключыыць з каштарысу настуныя пазіцыі:

1. Устаноўка аконых блокаў.
2. Устаноўка металічных агароджаў лесвіц з мацаваннем стоек і выраб гэтай агароджы.
3. Устаноўка дзвярных блокаў у цэгляных перагародках.

У сувязі з гэтым тэрмін заканчэння работаў пераносіцца на 1 красавіка 2004 года.

Па гэтй прычыне просім адкарэктаваць каштарысы і накіраваць на наш адрасс. пагадненне па дадзеным пытанні накіруем ў кароткі самы тэрмін.

**Заданне 2**. Разгарніце тэкст загада, адрэдагаваны з дапамогай карэктурных знакаў.

ЗАГАДВАЮ:

1. Камандыраваць менеджера ТАА «Вольга» Дубовік віктара Канстанцінавіча ў г.Маскву длля ўделу ў выс-таве Межнароднай «МіжкантРасія — 2003» з мэатй партнёрства пашырэння ў вобласці меж народных перавозак з 20.08.2003.

Тэрмін камандыроўкі — 3 дня.

2. Бухгалтэрыі:

2.1. Аплату працы начас камандыравання Ажыццяўляць з разліку сярэдняга заработка.

2.2. Аплату камандыровачных ажыццявіць згодна прыкладзенага разліку.

## АНАЛІЗ ФАКТЫЧНАГА МАТЭРЫЯЛУ

### Трэніровачнае практыкаванне 1

***Заданне:*** Праверце правільнасць афармлення алфавітнага бібліяграфічнага спіса. Выпраўце памылкі і запішыце. Пры неабходнасці карыстайцеся матэрыяламі дадатку 2.

1. Бурак Л.І. Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы. — Мн. Выд-ва БДУ. 1980. — С. 208.

Пятровіч Б. Піліпікі / Крыніца. Ст. 107 — 111, 1995. Кастрычнік.

Н.Б.Ватацы. Шляхі. Гіст.-літ. артыкулы, — Мн.: «Маст. літ.». 1986. 175 с.

Адамовіч Я.М., Касцян М.І., В.У. Ляпёшкін. «Беларуская мова»: Зборнік практыкаванняў: вучэб. дапаможнік. — Выш. шк., Мн., 1993. — 270 с.

А.Ханін. Няправільныя сабакі: Планета жывёл /Звязда.02.02.2002.—С. 4.

Бацькова З. Смяяцца не грэх. Сцэнар свята гумару для вучняў IX—XI класаў // Роднае слова. № 3. 2002.— С. 86 — 90

Философия: Учебное пособие для аспирантов / под общей редакцией проф. А.Г.Войтова. — Москва: Издательско-торговая корпорация «Дашков н К°». 2003. — С. 512.

2. Мезенка Г. Гарадское ўпарадкаванне Беларусі ў люстэрку урбанізацыі / Спадчына. С. 56 — 57. Студзень. 1991.

Конан У.М. Мова і культура // Беларуская мова: Эн цыклапедыя. — Мн., 1994: БелЭн. — 356 — 358 сс.

Я. Сахута. Статус, пацверджаны жыццём / Культура. 2004. 31 студз. — 6 лют. — С. 20.

Новый завет Господа нашего Иисуса Христа. — Минск, «Picorp». — 1993. — 300 С.

Hartman P. Text als linguistisches Object / Beitrage zur Textlinguistik. — München, 1971. S. 45—58.

Белы сон: вершы і паэмы. Ларыса Геніюш. — Мн., 1990. — «Маст, літ.» — 351 с.

Овсянников О. Мангазейские шахматы / Шахматы в СССР. 1970. № 7. С—23.

## ***Практычная работа 2***

***Тэма*** «Складанне і рэдагаванне алфавітнага бібліяграфічнага спіса».

***Мэта***: выпрацаваць уменне складаць і правяраць бібліяграфічны спіс.

**Заданне:** Выкарыстоўваючы інфармацыю аб кожнай з крыніц, размясціце іх у адпаведнасці з правіламі складання алфавітнага спіса літаратуры.

### Варыянт 1

Твор Алеся Асташонка «Жанчына ў бэзавым смутку» з падзагалоўкам «Канспекты», апублікаваны ў № 12 часопіса «Крыніца» за 1994 год на старонках 51—60.

Артыкул У. Беражкова і У. Левіна ў газеце «Чырвоная змена» на старонцы 6 за 23.05.1990 пад назвай «А гарком танцуе ламбаду».

Книга И. Б. Голуб «Стилистика русского языка», 4-е издание. Вышла в Москве в издательстве «Айрис-пресс» в 2003 году, имеет 448 страниц.

Артыкул на ст. 284 у энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі» (выдадзена ў Мінску ў 1993 годзе ў выдавецтве «БелЭн») пад назвай «Імперыял» аўтара В. С. Касмылёва.

Аповесць «Ладдзя Роспачы» Уладзіміра Караткевіча, якая змешчана ў яго кнізе «Аповесці. Вершы» на старонках 95—148. Кніга выйшла ў Мінску ў 2000 годзе ў выд-ве «Мінская фабрыка каляровага друку».

Артыкул Святланы Нямцовай «Тэатральная творчасць Яўгена Глебава» з падзагалоўкам «Валет "Выбранніца", апублікаваны на старонках 83—84 у часопісе «Роднае слова» за ліпень 2004 года.

Раман Генрыка Сянкевіча «Quo Vadis», мае указанне на перакладчыка: Пер. з пол. П. Татарыновіча. Выйшаў ў мінскім выдавецтве «Медысонт» у 2002 годзе, мае 412 старонак.

Артыкул Ганны Жукавай «Каб перадаць нашчадкам» з падзагалоўкам «Да саракагоддзя з дня ўтварэння БДАМЛІМ», апублікаваны на старонцы 4 у газеце «Літаратура і мастацтва» за 09.06.2000.

«Кароткі слоўнік беларускай мовы» з падзагалоўкам «Правапіс: Вымаўленне: Націск: Словазмяненне: Словаўжыванне». Аўтары — Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. Слоўнік выйшаў пад. рэд. В. І. Рабкевіча ў выд-ве «Маст. літ» у 1994 г., мае 367 старонак.

Кніга «Grundlagen des Studiums der Germanistik», аўтар — B. Sowiński. Выдадзена ў горадзе Koln у 1974 годзе, мае 392 S.

## Варыянт 2

Кніга Валянціны Коўтун «Лісты ад цябе» з падзагалоўкам «Вершы, паэмы». Выдадзена ў Мінску ў выд-ве «Маст. літ.» у 1988 годзе, мае 174 с.

Кніга «The Philosophy of Grammar». Выдадзенаў г. New York у 1924 годзе. Аўтар J.Jespersen, мае 312 p.

Артыкул Н. І. Буракоўскай пад назвай «Гарбарства» на с. 143 энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі», выдадзенай у Мінску ў выдавецтве «БелЭн» у 1989 годзе.

Артыкул «...Ружовай грыве скакуна», апублікаваны на старонках з 243 па 250 у зборніку «Дзень паэзіі — 83», уклад. Ю. Свірка. Выдадзены ў 1983 годзе.

«Беларуская мова». Выданне з падзагалоўкам — «Лінгвістычны кампендыум». Выдадзена ў Мінску ў 2003 годзе ў выд-ве «Інтэрпрэссэрвіс, Кніжны Дом». Аўтары В. Л. I lnu і нікаў і JI. А. Антанюк, мае 672 старонкі.

Апавяданне Сяргея Рублеўскага «Смерць Ёселя», апуб лікаванае ў «Звяздзе» на восьмай старонцы 20.03.2002.

Рассказ «Отец Сергий», опубликованный в книге Л. Н. Толстого «Смерть Ивана Ильича» с подзаголовком «Повести и рассказы» на стр. 228—269. Книга вышла в изд-ве «Худож. лит.» в Ленинграде в 1983 году.

Кніга «Практычнае выкарыстанне ПЭВМ» А. І. Кучынскага з падзагалоўкам «Вучэбны дапаможнік», выдадзеная ў Мінску ў выдавецтве «Ураджай» у 1997 годзе, мае 272 старонкі.

Раман «Кар'ер» Васіля Быкава, апублікаваны на старонках 5—276 пятага тома збору твораў пісьменніка ў шасці тамах. Пяты том выйшаў у Мінску ў 1994 годзе ў выд-ве «Маст. літ.».

Артыкул Міхаіла Пратасевіча «І нехта ўспомніць пра мяне» з падзагалоўкам «Канцэпцыя новай экспазіцыі літаратурнага музея Петруся Броўкі», апублікаваны ў часопісе «Роднае слова» за чэрвень 2004 года на старонках 89-91.

## ЛАГІЧНЫЯ АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ

### Практычная работа 3

***Тэма:*** «Лагічныя асновы рэдагавання».

***Мэта:*** выпрацаваць уменні знаходзіць парушэнні лагічнасці выкладу і выпраўляць такія недахопы.

**Заданне:** Знайдзіце памылкі ў доказах і азначэннях. Выпраўце выказванні і сказы.

1. Павялічыць сваю памяць вялікай тэхнічнай складанасці не ўяўляе.

2. Адразу хачу сказаць, што ў гэтым здарэнні маёй віны зусім няма. Я знаходзіўся ў кабінеце 304, калі пачуўся шум у калідоры. Потым высветлілася, што там хтосьці пырснуў газам з балончыка. Я паглядзеў сваю сумку і зразумеў, што то быў менавіта мой балончык.

3. Патрабуецца спецыяліст для аддзела, які мае вышэйшую адукацыю.

4. Сапраўдны дакумент толькі той, які падпісаны кіраўніком прадпрыемства.

5. На Вашу скаргу паведамляем, што наша арганізацыя займалася падключэннем указанага дома да энерганосьбітаў. Пастаянныя адключэнні святла звязаны з недастатковай магутнасцю электракабеляў і іх зношанасцю, у выніку чаго на працягу 1 кіламетра зроблена 15 муфтаў. Такім чынам, мы робім усё магчымае.

6. Нават у рашэнні агульнага сходу 19.06.2003 было адзначана, што план за І паўгоддзе не выкананы, таму сёння я прапаную яшчэ

раз абмеркаваць павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці ў IV квартале 2003 года.

7. Йагурт — харчовы прадукт, выраблены з вяршкоў з фруктовымі дабаўкамі.

8. Нестабільнаець курсу беларускага рубля прыводзіць да зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

9. Паколькі студэнцкая навуковая канферэнцыя знаходзіцца пад пагрозай зрыву, прапаную: 1) прызначыць адказных за падрыхтоўку залы; 2) накіраваць запыт у рэктарат аб магчымасці выдзялення памяшканняў для пасяджэнняў секцый; 3) навесці парадак у інтэрнаце.

10. У тэкстах афіцыйна-справавога стылю недапушчальным з'яўляецца выкарыстанне метафар.

## АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ НА АРФАГРАФІЧНЫМ УЗРОЎНІ

### Трэніровачнае практыкаванне 2

**Заданне:** Выпраўце арфаграмы з парушэннем правапісу галосных, запішыце словы. Вусна растлумачце праўку.

Індэкс, высвятліць, сержант, вынесці, фатаздымак, Цендракоў, кодакс, далікатэс, канцылярыя, тэрмас, хутка мчацца, акардыён, ільнопункт, шадэўр, натарыўс, забяспячэнне, ёд, цягніка, дэрыжор, мецяжу, спяктакль, радыятар, высокаякасны, іянізадыя, цэрымонія, планава-уліковы, Вялікабрытанія, дэталь, Токіа, крэпасны, кіяскёр, фізіолаг, вадаправод, прынтар, чэмпіанат, мотакрос, інцэдэнт, вясельчак, інжэнер, дзевяты, латэрэйны, Шаляговіч, вялікагрузны, дэманстраваць, мядзведзяня, выляцець, дынаміт, робат, востраносы, запаведзь, бюлетэнь, прымясь, адажыю, Чыкаго, цвік ржавы, Тэтчэр, спеліёлаг.

### Трэніровачнае практыкаванне 3

**Заданне:** Выпраўце арфаграмы з парушэннем правапісу зычных, запішыце словы. Вусна растлумачце праўку.

Агрэссіўны, увогуле, асяродзе, баранавічскі, Тадэуш, фірмены, наводмаш, сартыроўка, авантура, манна, алавяны, брацкі, кантрасны, расадзіць, ушчуваць, разкінуцца, аддзел, кішэнны,

аткаркаваны, церазпалосіца, расцілаць, опера, шчэпшчык, брэскі, фарпостны, расчапіць вагоны, таварышскі, расшчапіць дошку, формены, уверцюра, расада, завострaны, счастлівы, сарцавіна, збіцца, імянны, асветленны, наогул, перасажаны, дверы, падцвердзіць, тверды, поены, меца, танны, аткорм, грынвіцкі, усчынацца, ваблаетны, наваколье, откуп, камандыр, вагонны, сменны, удава, выяздны, нецвярозы, расольнік, опіс.

## Трэніровачнае практыкаванне 4

**Заданне:** Перакладзіце словы з рускай мовы на беларускую. Запішыце.

1. Компьютер, ольховый, накипь, корреспондент, инъекция, специалист, кандидат, стекломасса, осиповичский, льняной, голландский, университетский, множество, меньше, прецендент, подойти, открыть, голубь, глубоководный, майонез, взвод, отблеск, гамма, авторалли, воднотранспортный, Льва, коллега, Геннадий, типографический, карантин, артиллерия, диаграмма, литейщик, львы.

2. Глотать, дежурный, спроектировать, пьеса, Алла, выменять, ионизатор, Ошмяны, пол-лимона, оценить, коллектив, пианино, мгла, Двина, заочник, аудитория, судья, лавсан, здоровье, юго-восточный, конвейер, одноименный, смастрить, симпозиум, милосердный, балластный, несвижский, фойе, сафьяновый, предсъездовский, конъюнктура, многосменный, вильнюсский, авантюрист, измерять.

## Трэніровачнае практыкаванне 5

**Заданне:** Зрабіце арфаграфічную праўку сказаў.

1. Дырэктар створанага ЗАТ «Каскад» адзначыў, што прадпрыемству патрэбен партнёр, які гарантуе забяспячэнне гігантскіх абьёмаў паставак на бартарнай аснове. 2. Мы падлічылі, што фактычныя страты Беларускай чыгункі ад пасажыраў-льготнікаў летась зклалі 817 міліярдаў рублёў. 3. У обласці па ўтрыманні жэлеза 46 % проб вады з гарацкіх і 68 % з сельскіх вадаправодаў не атпавядаюць нармацівам. 4. Па лізінгу перадалі фірме новыя цегачы «Івека», сучасныя паўпрычэпы, якія атпавядаюць сусветныш стандартам. 5. У выніку ўзнікнення пытанняў адносна пунктаў

даннага кантракта просім тэрмінова паведаміць нам або ўнесьці рэдакцыю, якая будзе атпавядаць Вашым патрабаванням. 6. Звяртацца на камбінат для пакупкі рассады клубніц вы маеце магчымасць штодзённа з 9 да 18 гадзін, а фірменыя магазіны працуюць у той жа час ва ўсіх районах горада. 7. Устанаўленне або змяненне памеру надбаўкі пры пераходе у наступную стажавую группу праводзіцца па стане на 1 чысло месяца, за які выплачваецца надбавка. 8. Аб Вашай згодзе і падрыхтаваннасцх да гэтых тэрмінаў аттэстацыі просім інфармаваць нас да 15 снежня 2002 года.

## Практычная работа 4

***Тэма:*** «Выпрацоўка навыкаў арфаграфічна правільнага пісьма».

***Мэта:*** удасканаліць на прыкладзе супастаўлення ўменне пісаць арфаграфічна правільна.

**Заданне:** Дапамажыце наведвальнікам пашпартнага стала перакласці прозвішчы асоб з рускай мовы на беларускую. Размясціце спіс у алфавітным парадку. З пяццю прозвішчамі складзіце сказы афіцыйна-справавога стылю. (Усе прозвішчы — славянскага паходжання. 'Звяртайце ўвагу на націскі.)

## Варыянт 1

1. Алябьева
2. Аркадьев
3. Белоусов
4. Бессмертных
5. Богатырёва
6. Веденеев
7. Вейнерович
8. Веремейчик
9. Власик ;
10. Дедюля
11. Демьянова
12. Евсеев
13. Железняк
14. Касьянова
15. Концедайло
16. Лебедкин
17. Леонтьева
18. Миоров
19. Новосельцева
20. Осинцев
21. Потеряйченко
22. Сементовская
23. Соловьёв
24. Сырокваш
25. Терёхина
26. Тимощенко
27. Тяпко
28. Черняховский
29. Шелкович
30. Щедринович

## Варыянт 2

1. Ананьев
2. Валентинова
3. Водопьян
4. Вронская
5. Дедюшко
6. Деревянко
7. Дичковский
8. Евграфов
9. Железовская
10. Захарченко
11. Иванченко
12. Кальянова
13. Климченко
14. Кожедуб
15. Мережко
16. Некрасова
17. Непышная
18. Нестерович
19. Новодворский
20. Оверинцев
21. Подгруша
22. Специан
23. Субботина
24. Тадеушева
25. Тимошенко
26. Третьяков
27. Хрептович
28. Черноус
29. Четвериков
30. Шекелойть

## Практычная работа 5

***Тэма:*** «Рэдагаванне сказаў на арфаграфічным узроўні».
***Мэта:*** выпрацаваць уменне рэдагаваць сказы на арфаграфічным узроўні.
**Заданне:** Адрэдагуйце сказы.

### Варыянт 1

1. Указаць канкрэтныя дні выязду на гандаль ў месцы атпачынку не ўяўляецца магчымым, бо гэта залежыць ад умоў надвор'я і ад мерапрыемстваў, якія праводзяцца ва ўказанных месцах. 2. Работніку ЗАТ даецца штогадовы вотпуск працягласцю 15 рабочых дзён з захаваннем сярэднемесячнага ўзнагарожання, якое вызначаецца паводле апошняга поўнага гаспадарчага года. 3. Раней выплачанныя па разліках суммы сбору ў адпаведнасці с заявай плацельпчыка павінны ўвайсці ў кошт выплаты іншых плацяжоў. 4. Валавая прадукцыя нашага калгаса уключае ў сябе не толькі малако і мяса, але і кармавыя корняплоды, льновалакно і іншыя тавары. 5. Сумесная фірма па вытворчасці алею, па прапанове турэкскага боку, пачне працаваць не раней за 1 чэрвеня 2003 года, прычым плануецца выпуск не меньш за 100 тонн прадукту ў месяц. 6. Усё ж тав. Максімкаў зрабіў агаворку, што гэта будзе рабіцца «у рамках закону», але як такім чынам можна абыйсціся без папярэдняй карэктыроўкі заказаў. 7. Нам стала вядома, што будзе пастаўляцца кармавое збожжа нізкай кандзіцыі, якое не здыме праблему атсутнасьці высокаякаснай прадукцыі для вытворчасці хлеба. 8. У Вашай заяве сказана, што вёску немецкае камандаванне высяліла прымусова з прыфрантавой паласы, калі савецкія войскі падыйшлі да Дняпра ўшчыльную. 9. Усе спрэчкі і разнагалоссі, якія могуць узнікнуць з даннага Дагавора або ў сувязі з ім, калі яны не могуць быць вырашаны шляхам перамоў, падлегаюць разгляду у судовым парадку. 10. У выніку ўзнікнення пытанняў у адносінах пунктаў даннага кантракта просім тэрмінова паведаміць нам або ўнесьці рэдакцыю, якая будзе атпавядаць Вашым патрабаванням. 11. Новы парадак напісання адрэса связаны з тым, што ў свеце пры сартыроўцы пісьмаў цяпер выкарыстоўваецца штрыхавое кадыраванне.

## Варыянт 2

1. Просім устанавіць ліміт астатку кассы ў магазіне «Хвілінка» у дні выязднога гандлю, які праводзіцца ў месцах атпачынку, у суме 8 мільёнаў рублёў. 2. 4 машыны МАЗ-6317 фірма ўжо прадала «Газпраму», а эксперэментальныя партыі атгружаны ў Паволжжа і данбасскім гарнякам. 3. На сацыяльнае жыллё таксама могуць прэтандаваць і грамадзяне, якія маюць права на ільготнае паляпшэнне жыллёвых умоў. 4. Працягваць развіццё геннай інжэнерыі і іншых біатэхналогій — наш абавязак, бо ў адваротным выпадку гды ўсё больш будзем атставаць ад высокаякаснай прадукцыіі заходніх фірмаў. 5. Неабходна падключыць да стварэння фільма прафесіяналаў-дакументалістаў, якія спецыялізуюцца на кароткаметражных фільмах аб прыродзе, а таксама высокакласных падводных аператараў. 6. Гэта ўсё роўна не вывядзе гарацкі транспарт на ўзровень рэнтабельнасці, і зноў трэба разпрацоўваць графік павышэння тарыфаў на праезд. 7. Сам вадаправод у шматкватэрных дамах гэтай вёскі пабудаваны больш за 30 гадоў назад, калі былі дапушчаны грубыя парушэнні санітарных нормаў пры мантажы артэзіанскай свідравіны. 8. ЗапрашаеМ аматараў классікі 16 кастрычніка на сустрэчу з камернай музыкай заходне-еўрапейскіх кампазітараў ў выканаяні Ніны Цішко (меца-сапрана). 9. Просім знайсьці магчымасць і выдзяліць маладзёжнаму клубу хаця б адзін пакой, каб падлеткі прыходзілі туды паразмаўляць, паглядзець тэлевізар, папрацавадь на камп'ютары. Ю. Айчынная медзіцына пакуль не можа справіцца з дыагназам — рассеянны склероз, і яшчэ маладая жанчына аказалася без магчымасці церамяшчацца і весці нармальнае жыцё. 11. Просім накіраваць запыт у адзел метадалогіі бухгалтэрскага ўліку, ці працягваецца дзеянье патрабаванняў «Аб парадку выкарыстання 30 працэнтаў выручкі фірменымі магазінамі».

## Практычная работа 6

***Тэма:*** «Рэдагаванне тэксту на арфаграфічным узроўні».
***Мэта:*** зыпрацаваць уменне рэдагаваць тэкст на арфаграфічным узроўні.
**Заданне:** Адрэдагуйце тэкст службовага пісьма.

### Варыянт 1

На Ваш выходны № 43/739 ат 20 красавіка 2000 года паведамляю наступнае.

Кіраўніцтва ТАА «Трэст № 3» разгледзела накіраваны Вамі на наш адрэс пратакол ўзгаднення разнагалоссяў да дагавора ат 8 лютага 2000 года № 91. У выніку разгляду пратакол да вышейуказаннага дагавора мной падпісаны с агаворкамі, а іменна:

1) не прымаецца п. 5.4. дагавора ат 08 лютага 2000 года № 91, таму што згодна з дасягнутымі дамоўленнасцямі абъёмы паставак, а так сама ассарцімент, які падлягае пастаўцы на працягу тэрміну дзеянія указананага дагавора, будзе коррэкціравацца з улікам патрэб ТАА «Трэст № 3»;

2) згодна з пунктам 6.2. Вы павінны пастаўляць льновалакно раўнымі долямі штоквартальна, а не раўнымі долямі ў паўгодзе, як заяўляна ў пратаколе.

Прапаную накіравать на наш адрэс пісьмовае падцвярджэнне аб прыняцііі агаворак, якія ўтрымліваюца ў падпунктах 1 і 2 даннага пісьма.

### Варыянт 2

На Ваш выходны № 50/674 ат 16.03.2000 паведамляем настпнае.

Вамі парушэны умовы дагавора № 45 ат 25 мая 1999 года, таму што несваечасова зроблена аплата пастаўленнага намі тавару.

За несваечасовую аплату тавару прыгаданным вышэй дагаворам вызначана неустойка ў выглядзе пені ў памеры 0,5 % ат суммы дагавора за кожны дзень пратарміноўкі, разлік якой і патрэбаванне об уплаце суммы штрафной санкціі няаднаразова накіроўваліся на Ваш адрэс.

Сумма ў памеры 13 910 руб. РФ, якая Вамі аспрэчваецца, залічана намі ў кошт пагашэнія вызначаннай дагаво рам неустойкі, бо у ім льготы не прадуглежаны.

Прымаючы да ўвагі вышэйвыкладзеннае, паведамляем Вам, што разнагалоссе ў частцы, якая датычыцць вертання запатрабаваннай Вамі суммы, а мінавіта 13 910 руб. РФ, лічым урагулеванным.

## АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ НА ЛЕКСІЧНЫМ УЗРОЎНІ

### Трэніровачнае практыкаванне 6

**Заданне:** Вызначце з дапамогай «Слоўніка паронімаў беларускай мовы» або «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» адрозненні ў значэннях слоў-паронімаў. Складзіце словазлучэнні з кожнай парай слоў, запішыце.

1. Перыферыйны — перыферычны, абагуліць — абагульніць, старшына — старшыня, акруговы — акружны, аперaтыўны — аперацыйны, адрасат — адрасант, запаведны — запаветны, маляр — муляр, факт — фактар, шкода — шкада, тэлефанаваць — тэлефанізаваць, эфектны — эфектыўны.

2. Дрэўка — дрэўца, бескарысны — бескарыслівы, палатны — палатачны, асабісты — асабовы, камандзіраваны — камандзіровачны, канструкцыйны — канструктыўны, атамнік — атамшчык, адборны — адборачны, планаваць — планіраваць, скарбонка — скарбніца, дзейны — дзейсны.

### Трэніровачнае практыкаванне 7

**Заданне:** Спішыце. Адрэдагуйце няправільныя варыянты словазлучэнняў.

Станоўчы характар, дадатны электрод, станоўчае сальда, дадатныя эмоцыі; здзейсніць перавод грошай, ажыццявіць выкананне плана, здзейсніць гераічны ўчынак, здзейсніць службовы падлог, ажыццявіць продаж, учыніць крадзеж; раскрыць вокны, раскрыць вочы, разгарнуць кнігу, адчыненыя дзверы, адкрыць сход, раскрыты часопіс, адкрыць нешта новае, распачаць спрэчкі; апынуцца ў кабінеце, аказацца непадрыхтаваным, апынуцца ў

цяжкім становішчы, апынуцца на месцы старшыні, аказацца ў доме адпачынку; згубіць час, страціць здароўе, згубіць важны дакумент, згубіць пасаду, страціць дэталь; хатнія рэчы, хатнія гусі, свойская жывёла, даматканы ручнік, саматканая посцілка.

## Трэніровачнае практыкаванне 8

**Заданне:** Адрэдагуйце выразы з плеаназмамі.

Закончыць будаўніцтва да канца чэрвеня месяца; падрыхтавалі прэйскурант цэн; зрабіць да 20 гадзін вечара; атрымаць першае баявое хрышчэнне; жадаем усяго самага найлепшага; хітра абвесці вакол пальца; нарадзіцца ў шчаслівай кашулі; песня канчаткова спета.

## Трэніровачнае практыкаванне 9

**Заданне:** Адрэдагуйце сказы з таўталогіяй. Замяніце неапраўдана ўжытыя рускія словы.

1. Мы былі ўражаны, калі даведаліся, што штогод у свеце ад хвароб памірае больш за 8 мільёнаў малышоў. 2. Начальнік упраўлення адзначыў, што галоўнае патрабаванне, якое прад'яўляецца да галоўнага рухавіка таргоўлі, — даступнасць. 3. Даводзіцца нейрахірургу Скляраву ў нечым сабе адказваць, шукаць дадатковую працу, бо грошай, якія дзяржава плаціць яму за штодзённую, нялёгкую і адказную працу хірурга, на ўсё не хапае. 4. Для вострых кішэчных інфекцый характэрна цыклічнасць: звычайна яны актывізуюцца праз каждыя два гады на трэці год. 5. У межах гэтай праграмы ўрад таксама планіруе адкрыць спецыяльны сайт у Інтэрнэце, каб адкрыць яго карыстальнікам доступ да розных урадавых службаў. 6. Але Мікалай Козел адмаўляецца размаўляць пра беларускія грошы, бо лічыць сябе звязаным з гэтай самай таямніцай. 7. Трэба прызнаць, што робіцца недастаткова намаганняў, каб змагацца з абаротам наркотыкаў і нелегальнай іміграцыяй.

## Трэніровачнае практыкаванне 10

**Заданне:** Спішыце. Адрэдагуйце сказы з загаду на лексічным узроўні.

1. Папярэдзіць указаных у загадзе ліц за нядзелю да мерапрыемства. 2. Праінструктаваць правілы тэхнікі бяспекі (адказны Крывашэй С. Л). 3. Арганізаваць атэстацыйную камісію ў наступным складзе. 4. В.С. Сідарэвічу напісаць план асенняга легкаатлетычнага злёту. 5. Напрыканцы конкурсу зрабіць вынікі аб правядзенні конкурсу. 6. Нам. дырэктара знайсці будаўнічую брыгаду для правядзення рамонту дзіцячага сада. 7. Абсталяваць мужчынскі і жаночы і жаночы туалеты санітарна-тэхнічнымі сродкамі. 8. Кантроль за выкананнем ускласці на заг. аддзялення К. С. Смірнову. 9. Прывесці спіс асоб, прабыванне якіх на рабочым месцы ў час правядзення праверкі абавязковае. 10. Запрасіць парыкмахера, візажыста і стыліста для распрацоўкі індывідуальнага іміджу ўдзельніцы конкурсу.

## Практычная работа 7

***Тэма:*** «Памылкі, звязаныя з неадрозненнем паронімаў».
***Мэта:*** выпрацаваць уменне рэдагаваць недакладнасці, звязаныя з неадрозненнем паронімаў.

**Заданне**: Адрэдагуйце тыя сказы, у якіх маюцца памылкі ва ўжыванні паронімаў. (Ва ўсіх сказах звяртайце ўвагу на арфаграфічнае рэдагаванне.)

### Варыянт 1

1. Будаўнікі не ўлічылі канструктыўныя асаблівасці цэха, таму яго пуск аткладваецца на 1 месяц. 2. Прызначыць адказным за аперацыйнае кіраўніцтва на перыяд уводу цэха ў эксплуатацыю галоўнага інжэнера В. С. Співака. 3. У адпаведнасці з пастановай гарацкога савета даручыць будаўніча-мантажнаму трэсту тэлефанаваць мікрараён Азяркі ў IV квартале б. г. 4. Для таго каб абагуліць назіранні, спатрэбіліся два тыдні цяжкай працы ўсяго адзела. 5. Забяспячэнне салдат бялізнай у час тэрміновай службы ўваходзіць у абавязкі ротнага старшыні, 6. Пасля апошніх падзей у грамадстве становіцца шкада многіх пенсіянераў, якія аказаліся на мяжы выжывання. 7. Выдача грошай камандзіровачным будзе праводзіцца толькі з 1 па 10 чысло кожнага месяца ў кассе. 8. У Палацы культуры ў суботу, 23 ліпеня, пройдуць нершыя адборныя сустрэчы чэмпіанату краіны па каратэ-до. 9. Гэта рэч, без сумнення, належала яму асабова, але доказы не знашліся. 10. Канструктарскае бюро разпрацавала некалькі мадэляў новых, больш эфектных установак для пратручвання насення.

### Варыянт 2

1. Для правядзення выбараў дэпутатаў абласнога савета ствараюцца 25 гарацкіх акружных выбарчых камісссій. 2. Нявінаватасць падсуднага пацвярджалася многімі фактарамі, у першую чаргу такім, як яго знаходжанне ў гэты час на рабочым месцы. 3. Неабходна распрацаваць праект закона, які забяспечыць ахову і збераджэнне раслінага і жывёльнага свету на запаветных

тэрыторыях Палесся. 4. Кожны музей краіны — гэта скарбонка матэрыяльных каштоўнасцей народа, і таму захоўванне экспанатаў павінна строга кантраляваецца. 5. Толькі бескарысныя людзі могуць працаваць у бібліатэчнай сістэме, і гэта спрыяе пашырэнню ведаў сярод насельніцтва. 6. У апошнія гады выбар старшыні калгаса праводзіўся, у большасьці выпадкаў, з дзвюх-трох кандыдатур. 7. Але Васіль Іванавіч апынуўся чалавекам дзейсным, гатовым дапамагчы ва ўсім. 8. У гэтым навучальным годзе ў асабісты склад многіх Мінскіх школ уключана насада псіхолага. 9. Адзел маркетынгу плануе даследаваць рынкі сбыту ў цэнтральнаазіяцкіх краінах. 10. У абавязкі старший медзіцынскай сястры ўваходзіць кантроль за захаванасцю палатачнага абсталявання і мэблі.

## Практычная работа 8

***Тэма:*** «Рэдагаванне тэксту на лексічным узроўні».

***Мэта:*** выпрацаваць уменне рэдагаваць тэкст на лексічным узроўні.

***Заданне***: Адрэдагуйце ўрывак дакумента на лексічным і арфаграфічным узроўнях.

## Варыянт 1

У выпадку ўнясення ў Дзяржаўны рыестр налогаплацельшчыкаў Рэспублікі Беларусь звестак аб замене кіраўніка і бухгалтара (галоўнага бухгалтара) юрыдычнага ліца дадзенае юрыдычнае ліцо павінна прадставіць у абслуговы банк адпаведныя дакументы, якія выдаюцца налогавымі органамі.

Не патрабуецца прадстаўленне дакумента аб дзяржаўнай рэгістрацыі (перарэгістрацыі) і копій устаноўчых дакументаў, указаных у падпунктах 7.2 і 7.3 пункта 7 сапраўдных Правіл, наступным арганізацыям:

Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам; і

установам і арганізацыям, якія фінансуюцца з рэспубліканскага і месных бюджэтаў; міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага ўпраўлення;

кассам узаемадапамогі пры прафсаюзных камітэтах;
аздараўленча-спартыўным, аздараўленчым і другім ла-герам;
рэлігійным арганізацыям.

Пры адкрыцці счота рэлігійныя абшчыны павінны прадставіць спраўку абласнога (Мінскага гарадскога) выканаўчага камітэта аб рэгістрацыі устава (палажэння). Рэлігійныя аб'яднанні, цэнтры, упраўленні і створаныя імі рэлігійныя братствы, манастыры, місіі, духоўныя вучэбныя ўстановы прадстаўляюць спраўку Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь аб рэгістрацыі устава (палажэння).

**Варыянт 2**

Аформлены належным чынам камплект квітанцый перадаецца кассіру-эксперту ва ўстаноўленым парадку. Кассір-эксперт, атрымаўшы камплект квітанцый, прымае ад загадчыка аператыўнай касы неабходную колькасць цэннага металлу і ўзважвае яго.

Загадчык аператыўнай касы рыхтуе цэнныя металлы для рэалізацыі і выдае іх кассіру-эксперту пад роспісь у кнізе ўліку. Кассір-эксперт адбівае атрыманныя цэнныя металлы ў сваёй кнізе ўчоту ці ў кантрольным лісце.

Касір-эксперт ва ўстаноўленым парадку прымае грашовую налічнасць за рэалізаваны металл з выдачай кліенту квітанцыі, пасля чаго выдае метал і квітанцыю. Карашок квітанцыі прыкладаецца да паведамлення, а ордар перадаецца ў структурнае падраздзяленне банка, што здзяйсняе бухгалтарскі ўчот.

Аплата за прададзеныя цэнныя металлы можа здзяйсняцца па безнаяўным расчоту ва ўстаноўленым парадку.

Па заканчэнні аперацыйнага дня касеір-эксперт на аснаванні заяў і па кожным рыестры падлічвае агулвную массу прададзеных цэнных металлаў у лігатуры і часціні і агульную сумму атрыманых ад кліентаў грошавых сродкаў, потым састаўляе зводны рыестр і адчотную спраўку.

## АСНОВЫ РЭДАГАВАННЯ НА МАРФАЛАГІЧНЫМ УЗРОЎНІ

### Трэніровачнае практыкаванне 11

**Заданне:** Спішыце, раскрываючы дужкі.

1. Умацаванне (акоп), падрыхтоўка (тавар), закупка (цукар), рамонт (парасон), развіццё (баскетбол), атрыманне (ордэр), адкрыццё гарналыжнага (спуск), пасяджэнне (выканкам), акрамя (альпінізм), даўжыня (катэт), пасля (фінал), зараснік (вішняк), лячэнне (сыпняк), адкрыццё (планетарый), выраб (пратэз), заканчэнне (ваяж), дабрабыт (люд), каля (мільён), бурштынавага (кулон), прыгатаванне (марынад), для (спуск) з паверха, небяспечнага (вораг), імпартнага (спінінг), беларускага (асветнік), іржавага (цвік), якаснага (бекон).

2. Кілаграм (маргарын), штрафнога (ізалятар), каля (цэнтнер), ваеннага (камісарыят), пародзістага (кот), бястлушчавага (ягурт), без (шынель), жалезнага (ланцуг), каштоўнасць (клад), новага (спосаб), індыйскага (ёг), здабыча (магній), каля (алешнік), развіццё (патрыятызм), няякаснага (ізалятар), унясенне (запіс), адзіночнага (волат), адкрыццё (архіў), прыгатаванне (ростбіф), пасля (выбух), працяглага (лівень), школьнага (ранец), заечага (тлушч), прыступ (апендыцыт), недапушчэнне (дэбош), дастаўка (леў), таленавітага (мадэльер), разліванне (ром), вынікі (прагноз), працяглага (снегапад).

### Трэніровачнае практыкаванне 12

**Заданне:** Спалучыце прыназоўнікі аб, пры, па, у, на з назоўнікамі (месны склон), запішыце словазлучэнні.

1. Мэта, учынак, туга, гульня, бягун, прынтэр, неразбярыха, спосаб, банк, чарапаха, тварог, парог, Васіль Тонкавіч, характарыстыка, сканер, капітан, Сямён Мурашка, спёка, абмотка, край, марля, лейтэнант, Георгій, вучань, акт, Інга Мурашка, муж, ліфт, літасць.

2. Дзень, Альберт, паверх, порах, Саладуха Ігар, Саладуха Наталля, мука, цацка, макет, ліга, вадкасць, механік, оптыка, медзь, купля, ранец, прафесар, стог, хірург, з'езд, транспарт, дэкрэт, асака, ланцуг, мох, выхад, фестываль, выдавец, фініш, пячнік, скальпель.

## Трэніровачнае практыкаванне 13

**Заданне:** Адрэдагуйце сказы з няправільна ўжытымі ступенямі параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.

1. Нашай буйнейшай ва Усходняй Еўропе фірме па вытворчасці электронных кампанентаў зноў патрабуецца працоўная сіла. 2. На сёння сярэдняя заработная плата ў сельскай гаспадарцы складае 56 тысяч рублёў, што амаль у два разы менш гэтага паказчыка па рэспубліцы ў цэлым. 3. Вынік папярэдняга матча гэтых каманд у Маскве (2 : 2) быў ануляваны з-за таго, што вышыня перакладзіны варот аказалася на 12 см ніжэй нормы. 4. Беларускія пагранічнікі ўстанавілі пакуль толькі часовыя слупы, пастаянныя ж будуць у хуткім часе устаноўлены на чатырох важнейшых участках граніцы па 30 кіламетраў. 5. Толькі ў Гродне цяпер 70 фірменных магазінаў, больш палавіны якіх — прадуктовыя, 6. Тэмпература паветра ў цэхах не перавышае 10— 12 градусаў, хаця па тэхналагічных нормах яна павінна быць на 10 градусаў вышэй.

## Трэніровачнае практыкаванне 14

**Заданне:** Запішыце лічбы словамі.

1. Усе навабранцы, акрамя тых 732 прызыўнікоў, якія маюць права на адтэрміноўку ад прызыву, праходзяць медыцынскі агляд у вызначаныя тэрміны. 2. Лясгас здаў дзяржаве ўжо 342-ю бочку высакаякаснай жывіцы. 3. 375-тысячны аўтамабіль. 4. У калоне следам за 3 450 работнікамі завода ішлі супрацоўнікі НДІ. 5. Распрацаваць праграму падтрымкі малога бізнесу да 2015 года. 6. 930-годдзе горада.

## Трэніровачнае практыкаванне 15

**Заданне.** Прадоўжыце сказ са службовага пісьма, выкарыстоўваючы выразы з дужак.

*Будзем рады, калі Вы...* (адказаць нам, даслаць нам каштарыс, прыехаць да нас, наведаць нас, выпісаць нам каталог, узгадніць пастаўкі, даць магчымасць, прадаваць гэты тавар, прадаць нашу прадукцыю, забраць на рэалізацыю, змалоць збожжа, узяць для продажу, зберагчы наш падарунак, адвезці скрыні, прыляцець у Мінск, звязацца з намі праз месяц).

## Трэніровачнае практыкаванне 16

**Заданнне**. Адрэдагуйце сказы з нехарактэрнымі формамі дзеепрыметнікаў.

l. На 15 працэнтаў павялічылася колькасць захварэўшых на сальманелёз у Магілёўскім рэгіёне. 2. Як сведчыць захаваўшыйся пратакол гэтага пасяджэння, да кулакоў былі аднесены простыя сяляне, нястомныя працаўнікі вёскі Парыж. 3. Вялікага аб'ёму работ патрабуюць амаль не працуючыя ачышчальныя збудаванні, непакоіць стал 9 артэзіянскіх свідравін і 4 дамоў даваеннай пабудовы. 4. Спецыялісты прадставілі апошнія распрацоўкі па пытаннях укаранення энергазберагаючых тэхналогій і матэрыялаў і экалагічнага кантролю. 5. А ў такіх гаспадарках, як саўгас «Сітцы» і калгас «Іскра», мясцовыя жыхары, маючыя на сваіх падвор'ях менш кароў, наогул ужо зраўняліся з гаспадаркамі па колькасці прадаваемага дзяржаве каштоўнага прадукту. 6. Трубы былі афармлены як імпарт вобласці, якая затым да паступіўшага грузу не мае ніякіх адносін.

## Практычная работа 9

***Тэма:*** «Асаблівасці ўжывання ўласных назоўнікаў».

***Мэта:*** Выпрацаваць уменні ўжываць уласныя назоўнікі і рэдагаваць неапраўданыя формы.

**Заданне.** Аформіце адрасата службовага пісьма далей. У пяці выпадках выкарыстайце іншыя пасады кіраўнікоў і іншыя прадрыемствы.

*Генеральнаму дырэктару ВКФ «Экон»...*
Скіруха Ігар Канстанцінавіч
Сівагрывая Віталія Адамаўна
Кучко Аляксандра Нікіфараўна
Сямага Васіль Пятровіч
Зязюля Максім Святаслававіч
Сямага Зоя Алегаўна
Барысаў Альберт Дзмітрыевіч
Мінец Вераніка Ігнатаўна
Васілевіч Ілья Сцяпанавіч
Зязюля Вольга Георгіеўна
Пушча Антон Мацвеевіч
Скіруха Алеся Рыгораўна
Кучко Аляксандр Васілевіч
Васілевіч Эла Нікадзімаўна
Крыга Дзяніс Паўлавіч
Мухалапка Інга Кімаўна
Пушча Галіна Валер'еўна
Крыга Аглая Фёдараўна
Мухалапка Кірыл Міхайлавіч
Мінец Іосіф Дарафеевіч
Сівагрывы Альберт Баляслававіч
Барысава Надзея Казіміраўна

